Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА

# БЮЛЕТЭНЬ
## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР

15 ЛІСТАПАДА 1928 г.

№ 13 (56)

IV-ы год ВЫДАНЬНЯ

ВЫДАНЬНЕ
КІРАЎНІЦТВА СПРАЎ СНК
І ЭКАНАМІЧНАЙ НАРАДЫ БССР
МЕНСК—1928

Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА

# БЮЛЕТЭНЬ

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР


15 ЛІСТАПАДА 1928 г.

**№ 13 (56)**

IV-ты год ВЫДАНЬНЯ

ВЫДАНЬНЕ
КІРАЎНІЦТВА СПРАЎ СНК
І ЭКАНАМІЧНАЙ НАРАДЫ БССР

МЕНСК—1928

# ЗЬМЕСТ

Стар.

1. Абежнік Н.К. Юстыцыі і Н. К. Працы БССР па пытаньні пра даўнасьць па справах аб спагнаньні ўносаў на сацыяльнае страхаваньне (за 29-IX—1928 г. № 64) . . . . . . . . . . . . 5
2. Пастанова Н.К.Працы БССР пра дзяржаўны мінімум заработнай платы на 1928-29 гаспадарчы год (за 28-IX—1928 г. № 63) . . . . . 5
3. Абежнік Н.К.Працы БССР пра падбор працаўнікоў, якія пасылаюцца на работу ў дзяржаўныя працоўныя ашчадныя касы (за 2-X—1928 г. № 65) .. 6
4. Пастанова Н. К. Працы БССР пра нормы спэцвопраткі (за 15-X—1928 г. № 67) . . . . . . . . . . . . . 6
5. Абежнік Н. К. Фінансаў БССР, Н. К. Працы БССР і Ўсебеларускай Канторы Дзяржаўнага Банку пра парадак разрахункаў па ўносах на сацыяльнае забясьпечаньне для ўстаноў і прадпрыемстваў, якія знаходзяцца на дзяржаўным і мясцовых бюджэтах (за 6-20/X—1928 г.) . . . . . 7
   Дадатак. Абежнік Н. К. Фінансаў, Н. К. Працы СССР і Кіраўніцтва Дзяржаўнага Банку пра парадак разрахункаў па ўносах на сацыяльнае страхаваньне для ўстаноў і прадпрыемстваў, якія знаходзяцца на агульнадзяржаўным і мясцовым бюджэце . . . 8
6. Інструкцыя Н. К. Унутраных Спраў і Н. К. Юстыцыі БССР пра аднаўленьне згубленых дакумэнтаў (за 15-X—1928 г. № 5583—1) . . . 10
7. Інструкцыя Н. К. Унутраных Спраў БССР пра парадак аднаўленьня згінутых, або прапушчаных запісаў актаў нараджэньняў, сьмерцяў і шлюбаў. 11
8. Інструкцыя Н. К. Унутраных Спраў БССР пра парадак адчыненьня прадпрыемстваў паліграфічнай прамысловасьці, нагляд за імі і пра парадак карыстаньня хутка-друкарскімі і друкарскімі апаратамі (за 10-X—1928 г.) . . 13
9. Абежнік Н. К. Асьветы БССР аб падачы зьвестак пра скарыстаньне зямельных вучасткаў пры школах (за 17-X—1928 г. № 1) . . . . 15
10. Пастанова Н. К. Аховы Здароўя і Н. К. Працы БССР пра органы лекарскапрацоўнай экспэртызы . . . . . . . . . . . 18
11. Пастанова Н. К. Гандлю БССР пра цьвёрдую натуральную памольную плату (збожжам) за пераапрацоўку на дзяржаўных, каперацыйных і прыватных млынох і крупадзёрках збожжа сялянскіх і іншых прыватных памольцаў (за 27-IX—1928 г. № 55). . . . . . . . . . 27
12. Пастанова НК Гандлю БССР пра зьмену свае пастановы за 27-IX—1928 г. № 55 аб парадку здачы млыннымі прадпрыемствамі памольнага збору . 29
   Дадатак. Табліца памольнай платы . . . . . . . 30

---

## Памылкі.

У № 10(53) Бюлетэню СНК БССР за 1928 г., на ст. 11, у разьдзеле II пастановы Эканамічнай Нарады пры СНК БССР „Пра тэрміны службы і нормы амартызацыі маемасьці камунальных прадпрыемстваў:

| | | Тэрмін службы (гады) | Нормы амартызацыі ў %% ад кошту маемасьці |
|---|---|---|---|
| Замест: | „Дашчатыя . . . . | 15 | 17" |
| Трэба: | „Дашчатыя . . . . . . | 15 | 7" |

## 1. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Народнага Камісарыяту Працы БССР

**па пытаньні пра даўнасьць па справах аб спагнаньні ўносаў на сацыяльнае страхаваньне.**

*Усім судовым установам, інспэкцыям працы і страхавым касам.*

З месц пытаюцца, ці пашыраюцца правілы Грамадзянскага Кодэксу на спагнаньні плацяжоў на сацыяльнае страхаваньне.

Пры вырашэньні пастаўленага пытаньня трэба мець на ўвазе, што трохгадовы даўнасны тэрмін, прадугледжаны артыкулам 44 Грамадзянскага Кодэксу БССР, ліквідуе толькі такія прэтэнзіі, якія вынікаюць з прыватна-праўных адносін.

Бяручы пад увагу: а) што паводле арт. арт. 177 і 178 Кодэксу Законаў аб Працы для правядзеньня сацыяльнага страхаваньня ўстанаўляецца выплата страхавых уносаў, як асобная павіннасьць, незалежна ад узаемаадносін паміж наймальнікам і працоўным;

б) што калі прадпрыемствы, установы, гаспадаркі і асобы, якія карыстаюцца наймоваю працаю, ня выплацяць уносаў на сацыяльнае страхаваньне ў тэрміны, устаноўленыя органамі сацыяльнага страхаваньня, то сумы, якія павінны быць выплачаны на падставе пастановы СНК СССР за 30 чэрвеня 1925 г. „Пра адказнасьць за нарушэньне законаў аб сацыяльным страхаваньні“ (З. З. СССР 1925 г., № 45, арт. 336), залічаюцца ў нядоімку і спаганяюцца ў бясспрэчным парадку, устаноўленым для спагнаньня дзяржаўных падаткаў і збораў;

в) што такім чынам патрабаваньні органаў сацыяльнага страхаваньня аб спагнаньні ўносаў на сацыяльнае страхаваньне не вынікаюць з прыватна-праўных адносін, але прыроўніваюцца да патрабаваньняў фінансавых органаў аб выплаце падаткаў, Народны Камісарыят Юстыцыі і Народны Камісарыят Працы БССР растлумачваюць, што правілы арт. арт. 44—51 Грамадзянскага Кодэксу пра іскавую даўнасьць ня ўжываюцца пры спагнаньні плацяжоў на сацыяльнае страхаваньне і што для апошняга роду спагнаньняў ніякай даўнасьці законам не ўстаноўлена.

Народны Камісар Юстыцыі і Пракурор Рэспублікі БССР **А. Сташэўскі.**

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Я. Мяркулаў.**

29 верасьня 1928 г.
№ 64.

---

*Узгоднена з ЦСПСБ і НКФінансаў БССР.*

## 2. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра дзяржаўны мінімум заработнай платы на 1928-29 гаспадарчы год.**

Народны Камісарыят Працы БССР, на падставе пастановы СНК БССР за 16 сакавіка 1927 г. (пратакол распарадчага пасяджэньня № 47, арт. 600) пастанаўляе дзяржаўны мінімум заработнай платы і разьмеркаваньне па паясох, устаноўленыя на падставе пастановы НКПрацы БССР за 24 студзеня 1928 г., № 5, (Бюлетэнь СНК БССР за 1927 г. № 2), пакінуць у сіле аж да зьмены на 1928-29 гаспадарчы год.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Я. Мяркулаў.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Працы БССР **А. Круглік.**

28 верасьня 1928 г.
№ 63.

---

## 3. Абежнік Народнага Камісарыяту Працы БССР

### пра падбор працаўнікоў, якія пасылаюцца на работу ў дзяржаўныя працоўныя ашчадныя касы.

*Усім акруговым інспэкцыям працы.*

У сувязі з тым, што за апошні час наглядаецца значнае павялічэньне растрат і злоўжываньняў у дзяржаўных працоўных ашчадных касах, што тлумачыцца нездавальняючым падборам біржамі працы служачых, якія пасылаюцца туды, як з пункту погляду кваліфікацыі, так і асабовай іх якасьці.

З гэтае прычыны на падставе паказанага вышэй, а таксама на падставе агульных дырэктыў НКПрацы СССР, паводле якіх біржы працы павінны падбіраць рабочую сілу адпаведна з запатрабаваньнямі наймальніка, і для ўзмацненьня дзяржаўных ашчадных кас, Народны Камісарыят Працы БССР прапануе пры пасылцы ў працоўныя касы рабіць асабліва ўважлівы падбор работнікаў і пасылаць толькі тых, якія ведаюць ашчадную справу і адрэкамандавалі сябе, як сумленных і беззаганных у гэтай рабоце людзей.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Я. Мяркулаў.**

Ст. Інспэктар па рэгуляваньні рынку працы НКП БССР **С. Мышалаў.**

2 кастрычніка 1928 г.
№ 65.

---

*Узгоднена з ЦСПСБ.*

## 4. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

### пра нормы спэцвопраткі.

Для разьвіцьця арт. 141 Кодэксу Законаў аб Працы і ў дадатак да норм спэцвопраткі, прадугледжаных адпаведнымі пастановамі НКП СССР, Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

I. Устанавіць наступныя нормы спэцвопраткі для некаторых катэгорый рабочых і служачых усіх устаноў і прадпрыемстваў:

1. Канюх: 1. Парусінавая рубашка—1 год.
2. Брэзэнтавы фартух—1 год.
3. Скураныя боты—1 год.

2. Фурман: 1. Доўгі кажух—3 зімовых сэзоны.
2. Брэзэнтавая накідка з каптурам—2 летніх сэзоны.
3. Цьвёрдыя валенкі (абшытыя скураю)—2 зімовых сэзоны.
4. Зімовая шапка—3 зімовых сэзоны.
5. Скураныя рукавіцы—1 год.

*Увага.* Калі канюх адначасова выконвае абавязкі фурмана або калі фурман выконвае абавязкі канюха, то спэцвопратка выдаецца паводле нормаў, як для фурмана, і скураныя боты на 1 год.

3. Шофэр: 1. Скураны гарнітур—2 гады.
2. Скураныя рукавіцы (аўтамабільныя)—2 гады.
3. Цьвёрдыя валенкі—2 зімовых сэзоны.
4. Зімовая шапка—3 зімовых сэзоны.
5. Футра—3 зімовых сэзоны.
6. Цёплыя рукавіцы—2 зімовых сэзоны.
7. Акуляры—калі трэба.

4. Пасланец: 1. Брэзэнтавая накідка—2 гады.
2. Цьвёрдыя валенкі—2 зімовых сэзоны.

| | |
|---|---|
| | 3. Камашы—1 год. |
| | 4. Цёплая шапка– 3 зімовых сэзоны. |
| 5. Вартаўнік: | 1. Футра—3 зімовых сэзоны. |
| | 2. Брэзэнтавая накідка—2 гады. |
| | 3. Цьвёрдыя валенкі—2 зімовых сэзоны. |
| | 4. Цёплая шапка—3 зімовых сэзоны. |
| | 5. Рукавіцы—2 зімовых сэзоны. |
| 6. Апальнік | 1. Брэзэнтавая куртка—2 зімовых сэзоны. |
| | 2. Брэзэнтавыя рукавіцы—1 зімовы сэзон. |
| 7. Дворнік: | 1. Брэзэнтавы фартух—1 год. |
| | 2. Цёплыя рукавіцы—1 зімовы сэзон. |
| 8. Машыністка: | 1. 2 халаты з лёгкай тканіны—1 год. |
| 9. Кухар(ка): | 1. 2 курткі—1 год. |
| | 2. 2 фартухі—1 год. |
| | 3. 2 каўпакі—1 год. |
| 10. Прачка: | 1. 2 халаты—1 год. |
| | 2. 2 касынкі—1 год. |
| | 3. Камашы 1 пара—1 год. |
| 11. Пасудамыя: | 1. 2 фартухі—1 год. |
| | 2. 2 касынкі—1 год. |
| 12. Прыбіральшчыца: | 1. 2 халаты з лёгкай тканіны—1 год. |
| | 2. 2 касынкі—1 год. |
| | 3. Скураныя камашы 1 пара—1 год. |
| 13. Прадаўцы і сартавальнікі хутравых вырабаў: | 1. Парусінавы халат—1 год. |
| 14. Прадаўцы хлебных магазынаў і цукерняў: | 1. 2 халаты з лёгкай тканіны. |

II. З часу выданьня гэтай пастановы касуецца пастанова НКП БССР за 18 чэрвеня 1925 г. „Пра нормы спэцвопраткі“ (Бюл. СНК БССР, 1925 г., № 4).

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Працы БССР **А. Круглік.**

15 кастрычніка 1928 г.
№ 67.

---

## 5. Абежнік Народнага Камісарыяту Фінансаў, Народнага Камісарыяту Працы БССР і Ўсебеларускай Канторы Дзяржаўнага Банку

**пра парадак разрахунку па ўносах на сацыяльнае забясьпечаньне для ўстаноў і прадпрыемстваў, якія знаходзяцца на дзяржаўным і мясцовых бюджэтах.**

*Акруговым фінансавым аддзелам, акруговым страхавым касам, установам Дзяржаўнага Банку, камунальным банкам, народным камісарыятам, цэнтральным установам, акруговым выканаўчым камітэтам БССР і ўсім распарадчыкам крэдытаў па дзяржаўным і мясцовых бюджэтах.*

Пры гэтым абвяшчаецца для кіраваньня і выкананьня абежнік Народнага Камісарыяту Фінансаў Саюзу ССР, Народнага Камісарыяту Працы Саюзу ССР і Кіраўніцтва Дзяржаўнага Банку за 12—16/VII 1928 г. (НКФ № 666, НКП—401 і Дзяржбанку—355) „Пра парадак разрахунку

па ўносах на сацыяльнае забясьпечаньне для ўстаноў і прадпрыемстваў, якія знаходзяцца на агульнадзяржаўным і мясцовым бюджэце“.

Разам з гэтым паведамляецца, штоз тае прычыны, што на падставе пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў Саюзу ССР за 22 жніўня 1928 г. „Пра касавае выкананьне адзінага дзяржаўнага бюджэту Саюзу ССР і мясцовых бюджэтаў“, касы і скарбовыя часткі Народнага Камісарыяту Фінансаў з 1 кастрычніка 1928 г. ліквідаваны і іх функцыі перададзены ўстановам Дзяржаўнага Банку, ва ўсіх выпадках, калі ў абежніку № 666-401-355 гаворыцца—„касавая ўстанова НКФ“, трэба разумець—„установа Дзяржаўнага Банку“.

Калі касавае выкананьне мясцовых бюджэтаў перададзена камунальнаму альбо гарадзкому банку, то ў дачыненьні да тых ўносаў, што плацяцца ўстановамі, якія знаходзяцца на мясцовых бюджэтах, замест „касавая ўстанова НКФ“, трэба разумець „камунальны ці гарадзкі банк“.

Парадак складаньня зваротных асыгновак-чэкаў паказан у артыкуле 238 Касавых Правіл, зацьверджаных 10 верасьня 1928 г.

*Дадатак.* Памянёны абежнік.

Час. вык. аб. Народнага Камісара Фінансаў БССР **М. Кардашэнка.**

Нам. Народнага Камісара Працы БССР, Начальнік Галоўнага Кіраўніцтва Сацыяльнага Забясьпечаньня **Я. Мяркулаў.**

Кіраўнік Усебеларускай Канторы Дзяржаўнага Банку **Яршоў.**

6—20 кастрычніка 1928 г.
№ 2302—4 НКФ.
№ 151 НКП.
№ 1016 У. К. Д. Б.

---

*Дадатак.*

## Абежнік Народнага Камісарыяту Фінансаў Саюзу ССР, Народнага Камісарыяту Працы Саюзу ССР і Кіраўніцтва Дзяржаўнага Банку

### пра парадак разрахункаў па ўносах на сацыяльнае страхаваньне для ўстаноў і прадпрыемстваў, якія знаходзяцца на агульнадзяржаўным і мясцовым бюджэце.

*Народным Камісарыятам Фінансаў і Працы Саюзных Рэспублік, К. А. А. Дзяржаўнага Банку, Агульнасаюзным і Аб'яднаным Народным Камісарыятам і Цэнтральным Установам Саюзу ССР.*

Ня гледзячы на дадзеныя яшчэ ў 1925 годзе дырэктывы аб парадку разрахункаў па ўносах на сацыяльнае страхаваньне, якія належаць з устаноў і прадпрыемстваў, што знаходзяцца на агульнадзяржаўным альбо мясцовым бюджэце, апошнія да гэтага часу практыкуюць складаньне простых асыгновак-чэкаў пры пералічэньні сум на сацыяльнае страхаваньне.

Пацьвярджаючы ізноў мэтазгоднасьць разрахункаў па сацыяльным страхаваньні гатоўкаю, Народны Камісарыят Фінансаў Саюзу ССР, Народны Камісарыят Працы Саюзу ССР і Кіраўніцтва Дзяржаўнага Банку прапануюць устанавіць наступны парадак разрахункаў па ўносах на сацыяльнае страхаваньне для ўстаноў і прадпрыемстваў, якія знаходзяцца на агульнадзяржаўным альбо мясцовым бюджэце:

1. Усе ўстановы і прадпрыемствы, якія знаходзяцца на агульнадзяржаўным і мясцовым бюджэце, адначасна з падачаю зборных асы-

гновак-чэкаў на заработную плату высылаюць у касавую ўстанову Народнага Камісарыяту Фінансаў, у якой адчынен крэдыт, зваротныя асыгноўкі-чэкі на ўносы па сацыяльным страхаваньні, якія павінны быць выплачаны з данай заработнай платы.

У гэтых зваротных асыгноўках-чэках адзначаецца сума, якая павінна быць пералічана на бягучы рахунак мясцовай страхавой касы ў касавай установе Народнага Камісарыяту Фінансаў (установе Дзяржаўнага банку альбо касе Народнага Камісарыяту Фінансаў), і паказваецца нумар гэтага бягучага рахунку.

*Увага*. Калі па важных прычынах зваротныя асыгноўкі-чэкі на сацыяльнае страхаваньне ня могуць быць пададзены адначасна з асыгноўкамі-чэкамі на заработную плату, то паказаныя зваротныя асыгноўкі-чэкі павінны быць пададзены ў касавую ўстанову Народнага Камісарыяту Фінансаў з такім разьлікам, каб сумы па данай асыгноўцы-чэку маглі быць залічаны на бягучы рахунак страхавой касы не пазьней тэрміну, устаноўленага мясцоваю страхавою касаю для выплаты ўносаў на сацыяльнае страхаваньне.

2. Адначасна з зваротнаю асыгноўкаю-чэкам установа, якая робіць пералічэньне (страхавальнік), пасылае ў належную касавую ўстанову Народнага Камісарыяту Фінансаў (арт. 1) паведамленьне на імя страхавой касы аб зробленым пералічэньні, якое складаецца паводле дададзенай да гэтага абежніку формы.

Пры зваротнай асыгноўцы-чэку па ўносах на сацыяльнае страхаваньне, якія адлічаюцца з заработнай платы, што выплачваецца за другую палову месяца, замест паведамленьня пасылаецца разрахунковая ведамасьць за даны месяц паводле формаў №№ 3 і 4, дададзеных да інструкцыі Саюзнага Савету Сацыяльнага Страхаваньня пры НК Працы СССР за 14 сьнежня 1927 г. № 433 „Пра парадак спагнаньня ўносаў на сацыяльнае страхаваньне“ („ИЗВ. НКТ СССР“ 1927 г., № 7-8).

3. Касавая ўстанова Народнага Камісарыяту Фінансаў у той самы дзень, калі зваротная асыгноўка атрымана да 12 гадзін, і не пазьней наступнага за атрыманьнем зваротнай асыгноўкі-чэку дня, калі асыгноўка атрымана пасьля 12 гадзін, праводзіць паказаную ў асыгноўцы-чэку суму расходам у адпаведным каштарысным разьдзеле дзяржаўнага бюджэту альбо рахунку мясцовых выдаткаў і залічвае на бягучы рахунак адпаведнай страхавой касы.

Адначасна з гэтым касавая ўстанова Народнага Камісарыяту Фінансаў адсылае ўсе паведамленьні альбо разрахунковыя ведамасьці, якія маюць дачыненьне да данага залічэньня, у належную страхавую касу з паказаньнем часу залічэньня асобна на кожную заплочаную суму.

4. З часу ўвядзеньня ў сілу гэтага абежніку касуецца абежнік Народнага Камісарыяту Фінансаў і Народнага Камісарыяту „Працы СССР за 13 чэрвеня 1925 г. (№ НКФ 784, № НКП 187/636) „Пра складаньне зваротных асыгновак на сумы ўносаў на сацыяльнае страхаваньне“ („Известия НКТ СССР“ 1925 г., № 30).

Нам. Народнага Камісара Фінансаў СССР *Кузьняцоў*.

Народны Камісар Працы СССР *Шмідт*.

Кіраўніцтва Дзяржаўнага банку—Нам. Нач. Бюдж. Кіраўніцтва Народнага Камісарыяту Фінансаў СССР (подпіс).

Нам. Нач. Цэнтр. Кіраўніцтва Соцстраху *Фэйгель*.

12 ліпеня 1928 г.

*Дадатак* да п. 2 абежніку НКФ СССР, НКП СССР і Кіраўніцтва Дзяржаўнага Банку за 12/VII—1928 г.

Паведамленьне

у . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

(*назва органу сацыяльнага страхаваньня*).

. . . . . дня . . . . . . . . . месяца . . . . году зваротнаю асыгноўкаю № . . . . дадзена распараджэньне . . . . . . . . . . . . . . . (назва касавай установы Народнага Камісарыяту Фінансаў) пералічыць на Ваш бягучы рахунак . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . руб. (напісаць літарамі) . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . кап. уносаў на сацыяльнае страхаваньне, якая сума адлічаецца з заработнай платы, выплачанай работнікам . . . . . . . . . (назва ўстановы альбо прадпрыемства) за . . . . . . . . . . . . . . . (такі-та час).

Подпіс . . . . . . . . . .

(Адзнака касавай установы Народнага Камісарыяту Фінансаў)

. . . . . . . . . . . . руб. . . . . . . . . кап.
. . . . . . . . . . дня . . . . . м-ца . . . . . году,
залічана на бягучы рахунак № . . . .

Подпіс . . . . . . . .

---

## 6. Інструкцыя Народных Камісарыятаў Унутраных Спраў і Юстыцыі БССР

### пра аднаўленьне згубленых дакумэнтаў.

1. Асобы, што згубілі пасьведчаньні асобы, партыйныя білеты, пасьведчаньні ўрадавых асоб і іншыя дакумэнты, якія даюць пэўныя правы, ці прывілеі іх уласьнікам, павінны зараз-жа пасьля выяўленьня іх згубы зрабіць аб гэтым за свой кошт публікацыю ў мясцовым органе друку, якому мясцовым выканаўчым камітэтам дадзена права прымаць абвесткі аб згубе і неправадзейнасьці згубленых дакумэнтаў. У публікацыі павінна быць паказана: назва дакумэнту і ўстановы, якая выдала яго, паказаньне, на чые імя выдадзен дакумэнт і, па магчымасьці, дата выдачы і нумар дакумэнту.

2. У тых гарадох, а таксама ў сельскіх мясцовасьцях і рабочых пасёлках, якія ня маюць мясцовых органаў друку, прадугледжаная арт. 1 публікацыя замяняецца вывешваньнем органам міліцыі адпаведнай абвесткі ў міліцыі і ў выканаўчым камітэце аб згубе дакумэнту.

3. Калі будуць згублены асабліва важныя дакумэнты, скарыстаньне якіх знайшоўшаю асобаю можа зрабіць шкоду дзяржаве, то грамадзяне, што згубілі такія дакумэнты, адначасова з публікацыяю павінны заявіць аб згубе той установе, якая выдала згублены дакумэнт.

4. Праз сем дзён ад дня апублікаваньня аб згубе асобе, што згубіла дакумэнт, калі яна падасьць афіцыйную даведку аб публікацыі, выдаецца адпаведнаю ўстановаю другі дакумэнт замест згубленага, прычым на дакумэнтах, выданых дублікатам, абавязкова робіцца надпіс: „дублікат, выдадзены замест згубленага“.

5. Асоба, што знайшла згубленыя дакумэнты, павінна зараз-жа аддаць іх у міліцыю, раённы выканаўчы камітэт, або ў сельскі савет,

якія аддаюць атрыманыя дакумэнты іх уласьнікам, калі-ж уласьнік невядомы—захоўваюць іх на працягу шасьці месяцаў да патрабаваньня ўласьніка; пасьля паказанага шасьцімесячнага тэрміну знойдзеныя дакумэнты накіроўваюцца ў той орган, якім знойдзены дакумэнт быў выдан.

Знойдзеныя асабліва важныя дакумэнты (арт. 3) зараз-жа пасьля дастаўленьня асобаю, што знайшла іх, перасылаюцца ў тую ўстанову, якая выдала даны дакумэнт.

6. Неаддача знойдзеных дакумэнтаў і скарыстаньне такіх асобаю, што знайшла іх, для сваіх інтарэсаў выклікае адказнасьць у крымінальным парадку.

Інструкцыя НКУС БССР за 26/III—1927 г. № 57 „Аб дзеяньнях міліцыі пры падаваньні грамадзянамі заяў аб згубе або крадзежу дакумэнтаў, а таксама аб згубе рэчаў і жывёлы“ (Бюлетэнь СНК БССР 1927 г. № 7) касуецца.

Нам. Народнага Камісара
Ўнутраных Спраў БССР **Я. Кроль.**

Нам. Народнага Камісара
Юстыцыі БССР **Ст. Гохман.**

15 кастрычніка 1928 г.
№ 5583-1.

---

## 7. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

### пра парадак аднаўленьня згінутых або прапушчаных запісаў актаў нараджэньняў, сьмерцяў і шлюбаў.

Для правільнай і аднастайнай пастаноўкі працы органаў ЗАГС у справе аднаўленьня згінутых або прапушчаных запісаў актаў нараджэньняў, сьмерцяў і шлюбаў, а таксама для спрашчэньня парадку аднаўленьня гэтых запісаў пры масавым зьнішчэньні актавых (старых мэтрычных і рэгістрацыйных) кніг, трэба кіравацца наступным:

1. Згінутыя, або прапушчаныя запісы нараджэньняў, сьмерцяў і шлюбаў аднаўляюцца акруговымі і раённымі органамі ЗАГС тады:

а) калі згінулі старыя мэтрычныя або новыя рэгістрацыйныя кнігі;

б) калі ў існуючых старых мэтрычных і рэгістрацыйных кнігах прапушчаны запісы здарэньняў нараджэньняў, сьмерцяў і шлюбаў;

в) калі прапушчаны запісы адзначаных здарэньняў у рэвалюцыйны пэрыяд (прыблізна з 1917 да 1921 г.) па прычынах, што не залежаць ад саміх грамадзян.

2. Калі мэтрычныя ці рэгістрацыйныя кнігі згінулі масаю (напрыклад: калі згнулі кнігі ўсяе вёскі, ці некалькіх паселішчаў), то запісы могуць аднаўляцца і сельскімі саветамі.

3. Сэктанты, стараабрадцы і іншыя, якія не рэгіструюць нараджэньняў, сьмерцяў і шлюбаў на грунце абраднасьцяў, падыходзяць пад палажэньне п. „б“ арт. 1 гэтай інструкцыі.

4. Паказаныя вышэй запісы аднаўляюцца толькі тады, калі ў грамадзян ёсьць довады аб тым, што яны ня могуць атрымаць патрэбных ім дакумэнтаў аб нараджэньні, сьмерці, ці шлюбе з адпаведнага органу ЗАГС.

5. Довадам таго, што яны ня могуць атрымаць дакумэнтаў, зьяўляецца:

а) даведка мясцовага органу ЗАГС, у раёне якога быў зарэгістраваны даны акт;

б) даведка акруговага органу ЗАГС, у якім захоўваліся другія экзэмпляры даных запісаў, аб тым, што няма адзначаных кніг, ці запіс у іх прапушчан;

в) іншыя дакумэнты, якім можна цалком даверыць і якія прызнаны органамі ЗАГС зусім верагоднымі, а таксама паказаньні сьведак.

*Увага 1.* Калі ў грамадзян, якія заяўляюць аб аднаўленьні запісу, няма патрэбных даведак акруговага органу ЗАГС, то такія павінны быць вытрабаваны непасрэдна тым органам ЗАГС, які прыняў заяву.

*Увага 2.* Калі ў акруговым органе ЗАГС ёсьць зьвесткі аб згубе адпаведных актавых кніг, то даведка мясцовага органу ЗАГС не абавязкова.

6. Падставаю для аднаўленьня запісаў зьяўляюцца заявы грамадзян з дакумэнтамі, паказанымі ў арт. 5 гэтай інструкцыі.

7. Заявы могуць рабіцца ў пісьмовай і вуснай форме ў адпаведны орган ЗАГС у месцы жыцьця зацікаўленых асоб. У заяве павінна быць дакладна паказана месца і час рэгістрацыі таго ці іншага акту, а калі прапушчаны запісы, то трэба паказваць, дзе адбылося здарэньне нараджэньня, сьмерці альбо шлюбу.

8. Адноўленыя запісы запісваюцца ў існуючыя рэгістрацыйныя кнігі з тэю толькі розьніцаю, што ў графе „розныя адзнакі" дапісваецца, што запіс адноўлены з тае прычыны, што згінулі кнігі ці прапушчаны запіс і падана хадайніцтва такога-та.

Гэтая адзнака падпісваецца Загадчыкам ЗАГС.

9. Адноўленыя запісы ў акруговыя статыстычныя органы не пасылаюцца.

**Аднаўленьне запісаў нараджэньняў.**

10. Калі пры аднаўленьні згінутых або прапушчаных запісаў аб нараджэньнях гады грамадзяніна, на якога аднаўляецца запіс, ня могуць быць высьвятлены якімі-небудзь верагоднымі дакумэнтамі, то гады яго ўстанаўляюцца камісіяю для вызначэньня гадоў па выглядзе, складзенаю паводле пастановы ЦВК і СНК БССР за 8 сьнежня 1927 г. (З. З. БССР 1927 г., № 47, арт. 254).

11. Орган ЗАГС павінен разглядзець усе дакумэнты, якія знаходзяцца ў справе і ёсьць на руках у грамадзян, выслухаць пацьверджаньне сьведак, калі такія ёсьць, і на падставе гэтых дакумэнтаў і даведкі камісіі для вызначэньня гадоў па выглядзе (арт. 9) зрабіць запіс у адпаведную кнігу (арт. 8).

12. У графе 8 акту пасьля зробленай адзнакі (арт. 8 інструкцыі) дапісваецца, на падставе якіх дакумэнтаў адноўлены запіс (пералічыць пададзеныя дакумэнты ці дазнаньне міліцыі), і дапіска падпісваецца Загадчыкам ЗАГС.

13. Пры заяве аб аднаўленьні запісаў аб нараджэньні дзяцей, узятых грамадзянамі на выхаваньне не з органаў інспэкцыі народнай асьветы, а таксама бяспрытульных, недарослых, якія страцілі сувязь з бацькамі і не памятаюць месца свайго нараджэньня, павінны падавацца пастановы органаў апекі аб дазволе ўсынаўленьня паводле арт. арт. 75—80 Кодэксу Законаў аб Шлюбе, Сям'і і Апецы (З. З. БССР 1927 г., № 7, арт. 26).

14. Калі ўстанавіць асобу заяўніка дакумэнтамі няма магчымасьці (бо няма дакумэнтаў), то запісы аб нараджэньні аднаўляюцца толькі пасьля ўстанаўленьня асобы данага грамадзяніна пры дапамозе дазнаньня міліцыі.

**Аднаўленьне запісаў сьмерцяў.**

15. У заявах аб аднаўленьні запісаў аб сьмерці паказваецца: а) імя, імя па бацьку, прозьвішча і гады памершага і б) час і месца сьмерці. Адзначаныя зьвесткі павінны быць падпісаны зацікаўленаю асобаю (заяўнікам), а калі ён няпісьменны, то кім-небудзь з прысутных. Апроч таго, да заявы павінны быць прыкладзены дакумэнты, паказаныя ў арт. 5 гэтай інструкцыі.

16. Орган ЗАГС, устанавіўшы на падставе дакумэнтаў, паказаных у арт. 5, і паказаньняў сьведак, здабытых дазнаньнем міліцыі, сапраўднасьць факту сьмерці, аднаўляе запіс, запісваючы апошні ў адпаведную актавую кнігу.

17. У акце аб сьмерці паданыя дакумэнты ці дазнаньне міліцыі пералічваюцца ў графе 6.

**Аднаўленьне запісаў шлюбаў.**

18. Запісы аб шлюбе аднаўляюцца органамі ЗАГС толькі тады, калі згінулі старыя мэтрычныя ці новыя рэгістрацыйныя кнігі і няма другіх экзэмпляраў іх у адпаведных архівах і калі ёсьць заявы абодвых супругаў.

19. У заявах аб аднаўленьні запісаў шлюбу паказваецца: а) імя, імя па бацьку і прозьвішча абодвых супругаў, б) з якога часу знаходзяцца ў шлюбе, в) месца рэгістрацыі шлюбу і г) прычыны, якія выклікалі патрэбу аднаўленьня запісаў.

20. У графе 7 абавязкова падпісваюцца заяўнікі.

21. Калі трэба аднавіць запіс аб шлюбе ў час адсутнасьці ці пасьля сьмерці аднаго з супругаў, то факт шлюбнага супольнага жыцьця павінен аднаўляцца народным судом паводле прымет арт. 23 Кодэксу Законаў аб Шлюбе, Сям'і і Апецы.

22. Паданыя дакумэнты ці дазнаньні міліцыі для аднаўленьня акту шлюбу пералічваюцца ў графе 6.

23. Пасьведчаньні адноўленых запісаў актаў грамадзянскага стану выдаюцца на агульных падставах, г. зн. выданыя першымі пасьля аднаўленьня запісаў лічацца першапачатковымі, аб чым робіцца адпаведная адзнака у графе „розныя адзнакі".

24. З часу выданьня гэтай інструкцыі касуецца Інструкцыя НКУС БССР за 27 мая 1928 г. „Пра парадак аднаўленьня прапашчых або прапушчаных запісаў актаў нараджэньняў, сьмерцяў і шлюбаў" (Бюлетэнь СНК БССР 1928 г. № 7 (50).

Нам. Народнага Камісара Унутраных Спраў БССР **Я. Кроль.**

16 кастрычніка 1928 г.

---

## 8. Абежнік Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

### аб падачы зьвестак пра скарыстаньне зямельных вучасткаў пры школах.

*Усім раённым інспэктарам народнай асьветы.*

Паставіўшы масавую вясковую школу на працу паводле комплексных праграм з выразным сельска-гаспадарчым ухілам, Народны Камісарыят Асьветы на першых-жа гадох разьвіцьця гэтай школы ня раз зазначаў, што правільная пастаноўка навучальнае справы ў вясковых школах поўнасьцю будзе дасягнута толькі тады, калі настаўнік нашай

масавай школы, ўзброены добраю кваліфікацыяю, умела здоляе выкарыстаць для навучальных мэт свой прышкольны зямельны вучастак.

Для гэтай мэты былі зроблены захады ў рэспубліканскім маштабе аб надзяленьні школ зямельнымі вучасткамі.

Для таго, каб з мэтадычнага боку правільна разьвязаць пытаньне аб скарыстаньні зямельных вучасткаў з прыстасаваньнем да школьных навучальных плянаў і праграм, каб дапамагчы настаўніку канкрэтнымі і практычнымі парадамі ў гэтым, Народны Камісарыят Асьветы, праз часопіс „Асьвета“, у 1925 і 1926 гадох згуртаваў на гэтым пытаньні грамадзкую і пэдагагічную думку, паставіўшы яго перад настаўніцтвам на летніх настаўніцкіх курсах, зьмясьціўшы ў часопісу „Асьвета“ шэраг артыкулаў дыскусійнага характару*) і выдаўшы для кіраваньня вычэрпваючы мэтадычны ліст на тэму—„Як скарыстаць школьны зямельны вучастак“ **).

Нарэшце, для практычных і больш дэталёвых парад, а таксама для паказу таго, якія магчымы разнастайныя варыянты ў скарыстаньні школьнага вучастку, Навукова-Мэтадалёгічны Камітэт выдаў асобную кніжку Нядзьведзкага з назваю: „Зямельны вучастак пры школе“.

Такім чынам, пытаньне аб школьным вучастку ўжо даволі поўна папулярызавана ў літаратуры, блізкай да вясковага настаўніка і зараз, у сувязі з гэтым, паўстала дадатковая задача—улічэньня таго эфэкту, які дала масавая практычная спроба скарыстаньня зямельных вучасткаў для навучальных мэт школы.

Гэты эфэкт Навукова-Мэтадалёгічным Камітэтам мае быць ўлічаны праз шэраг лепшых допісаў у „Асьвету“ аб скарыстаньні школьных зямельных вучасткаў і асабліва праз пад‘агуленыя і апрацаваныя ў раённым маштабе зьвесткі раённых інспэктароў народнай асьветы.

Народны Камісарыят Асьветы прапануе, каб не пазьней 15 сьнежня 1928 году такія апрацаваныя матар‘ялы па кожым раёне былі надасланы непасрэдна ў Народны Камісарыят Асьветы.

У канчатковай апрацоўцы павінна быць наступнае:

1. Агульная плошча (па ужытках) школьных вучастках раёну.
2. Колькі школ раёну надзеляна зямельнымі вучасткамі (лік і проц.).
3. У колькіх школах зямельныя вучасткі выкарыстаны ў 1928 годзе з навучальнымі мэтамі.
4. Якая плошча (паводле ужыткаў) і ад колькіх школ здавалася ў арэнду, агульная выручка ад вучасткаў і на што скарыстоўвалася выручка.
5. У колькіх школах вучасткі агароджаны і прыблізная забясьпечанасьць школ сельска-гаспадарчым інвэнтаром.
6. Мэтадычная справаздача аднэй з школ раёну, якой ўдалося найбольш правільна скарыстаць зямельны вучастак.
7. Вывады пра дасягненьні ў гэтай справе.

*Увага.* Зьвесткі падаць асобна на школы 4-годкі і школы 7-мі годкі.

За Народнага Камісара Асьветы БССР **П. Шастакоў.**

За Старшыню Навукова-Мэтадалёгічнага Камітэту **І. Мазур.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Асьветы БССР **Ю. Савіч.**

17 кастрычніка 1928 г.
№ 1.

---

*) Часопіс „Асьвета“ № 3 за 1926 г. П. Шастакоў „Роля зямельных вучасткаў пры масавай школе“. Нядзьведзкі і інш.

**) Час. „Асьвета“ за 1926 г. № 3.

# 9. Пастанова Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя і Народнага Камісарыяту Працы БССР

## пра органы лекарска-працоўнай экспэртызы.

### А. Органы лекарска-працоўнай экспэртызы.

1. Лекарска-працоўная экспэртыза робіцца:

а) раённымі лекарска-экспэртнымі камісіямі пры раённых выканаўчых камітэтах;

б) акруговымі бюро лекарскай экспэртызы пры акруговых выканаўчых камітэтах.

2. Органы лекарска-працоўнай экспэртызы знаходзяцца пад ведамам органаў аховы здароўя.

3. Органы лекарска-працоўнай экспэртызы выносяць свае пастановы на падставе падрабязных абследаваньняў абгледжанай асобы.

*Увага 1.* Калі абгляд у камісіі ня можа даць дастатковых даных для вынясеньня пастановы, то абгледажаная асоба можа накіроўвацца органамі лекарска-працоўнай экспэртызы ў спэцыяльныя дасьледчыя габінэты (лябараторыі, рэнтгенаўскія габінэты і г. д.), а таксама ў стацыянарныя лекавыя ўстановы, у тым ліку і ў клініку прафэсіянальных хвароб, для дадатковага абсьледваньня і нагляду.

*Увага 2.* Асобы, якія ня могуць па стану здароўя зьявіцца на пасяджэньне лекарска-працоўнай экспэртызы, могуць абглядацца ўсёю камісіяю альбо адным з экспэртаў у доме, у апошнім выпадку заключэньне экспэрта, разглядаецца і зацьвярджаецца на пасяджэньні лекарска-працоўнай экспэртызы.

4. Пастановы органаў лекарска-працоўнай экспэртызы прымаюцца большасьцю галасоў членаў камісіі і запісваюцца ў кнігу пратаколаў пасяджэньняў, якая вядзецца паводле формы, вызначанай Народным Камісарыятам Аховы Здароўя.

5. На кожную абгледжаную асобу складаецца акт у 2-х экз. паводле вызначанай НК Аховы Здароўя формы, адзін з якіх пасылаецца ўстанове, якая накіравала абгледжаную асобу, 2-гі экз. захоўваецца ў справах камісіі.

*Увага.* Акты абгляду падпісваюцца старшынёю, сакратаром і членамі прысутнымі пры абглядзе.

6. Пастановы лекарска-працоўнай экспэртызы сьведчаць толькі наяўнасьць і ступень інваліднасьці і не даюць права на атрыманьне сацыяльнага забясьпечаньня, гэтае апошняе даецца органам сацыяльнага страхаваньня, сацыяльнага забясьпечаньня і ваеннага ведамства па належнасьці.

7. Пераабгляд інвалідаў, а таксама асоб, якія накіроўваюцца ваенным ведамствам, назначаецца органамі лекарска-працоўнай экспэртызы тады, калі чакаецца ў недалёкай будучыне палепшаньне альбо пагоршаньне стану здароўя абгледжанай асобы, якое можа зрабіць уплыў на ступень яго інваліднасьці, прычым пераабгляд павінен рабіцца не раней аднаго году.

*Увага.* Пераабгляд да тэрміну можа рабіцца на падставе запатрабаваньня органаў сацыяльнага страхаваньня, сацыяльнага забясьпечаньня і ваеннага ведамства, калі пры гэтым будзе адпаведнае матываваньне.

8. Асобы на абгляд у органы лекарска-працоўнай экспэртызы накіроўваюцца: група застрахаваных—органамі сацыяльнага страхаваньня,

а іншыя кантынгэнты—праз адпаведныя ўстановы (сацыяльнага забясьпечаньня, ваеннага ведамства, органы аховы здароўя).

*Увага.* Непрацоўны элемэнт, а таксама і іншыя грамадзяне, якія не накіраваны органамі, паказанымі ў арт. 8, а зьяўляюцца на абгляд самі, абглядаюцца ў органах лекарска-працоўнай экспэртызы пасьля аплаты належнага збору, ўстаноўленага адпаведнымі выканаўчымі камітэтамі.

**Б. Раённыя лекарска-экспэртныя камісіі.**

9. На раённыя лекарска-экспэртныя камісіі пры раённых выканаўчых камітэтах ускладаецца абгляд незастрахаванага насельніцтва раёну для:

а) устанаўленьня інваліднасьці і групы яе;

б) высьвятленьня патрэбы ў вялікай пратэзнай дапамозе.

10. У склад раённых лекарска-экспэртных камісій уваходзяць членамі з правам пастаноўчага голасу:

а) прадстаўнік раённага выканаўчага камітэту (за старшыню);

б) прадстаўнік раённага камітэту сялянскай узаедапамогі;

в) 2 лекары.

*Увага.* У некаторых выпадках, калі няма ў раёне другога лекара, пасяджэньне раённай лекарска-экспэртнай камісіі адбываецца з удзелам аднаго лекара.

г) сакратар—тэхнічны працаўнік (без права пастаноўчага голасу), які назначаецца раённым выканаўчым камітэтам.

11. Дні, гадзіны і месца пасяджэньняў раённай лекарска-экспэртнай камісіі ўстанаўляюцца раённым выканаўчым камітэтам. Раённая лекарска-экспэртная камісія ўтрымоўваецца на сродкі раённага выканаўчага камітэту.

12. Скаргі на пастановы раённай лекарска-экспэртнай камісіі, а таксама разнагалосьсі паміж членамі раённай лекарска-экспэртнай камісіі могуць быць на працягу 6-ці тыдняў накіраваны для разгляду ў адпаведнае акруговае бюро лекарскай экспэртызы, пастановы якога зьяўляюцца канчатковымі на пастановы раённай лекарска-экспэртнай камісіі і ня могуць абскарджвацца.

*Увага.* Пасьля ўзгадненьня з акруговаю інспэктураю аховы здароўя і акруговаю страхавою касаю раённым лекарска-экспэртным камісіям можа даручацца абгляд і застрахаваных раёну. У такіх выпадках у склад раённай лекарска-экспэртнай камісіі ўваходзяць упаўнаважаны страхавой касы з правам пастаноўчага голасу.

**В. Акруговае бюро лекарскай экспэртызы.**

13. На акруговае бюро лекарскай экспэртызы ўскладаецца:

а) абгляд і ўстанаўленьне груп інваліднасьці застрахаваных і іх утрыманцаў, кантынгэнту сацыяльнага забясьпечаньня, ваеннага ведамства і іншых грамадзян акругі.

*Увага.* Калі абглядаецца кантынгэнт ваеннага ведамства, то бюро лекарскай экспэртызы, апроч устанаўленьня інваліднасьці і групы яе, высьвятляе, ці зьвязана інваліднасьць з праходжаньнем вайсковай службы.

б) Разгляд скаргаў на пастановы раённых лекарска-экспэртных камісій, якія існуюць у данай акрузе, і вынясеньне аб іх пастаноў на падставе пададзеных матар'ялаў альбо праз выклік абгледжанай асобы на пераабгляд.

14. Пастановы акруговых бюро лекарскай экспэртызы могуць быць абскарджаны на працягу 6 тдняў ад дня абвяшчэньня вынікаў абгляду. Скаргі падаюцца ў органы аховы здароўя, сацыяльнага страхаваньня і сацыяльнага забясьпечаньня, прычым ў гэтых апошніх выпадках скаргі на працягу 3-х дзён перадаюцца ў органы аховы здароўя.

15. Разгляд скаргаў і новы пераабгляд робіцца ў тым самым акруговым бюро лекарскай экспэртызы пры іншым складзе лекараў экспэртаў (спэцыялістых), прычым гэтыя апошнія даюць пісьмовыя матываваныя заключэньні.

*Увага.* Разгляд скаргаў і новы пераабгляд можа перадавацца іншаму бюро лекарскай экспэртызы тае самай акругі, калі такое ў данай акрузе існуе.

16. Пастановы бюро лекарскай экспэртызы ў новым складзе лекараў-экспэртаў (спэцыялістаў) зьяўляюцца канчатковымі і ня могуць абскарджвацца.

17. У склад акруговага бюро лекарскай экспэртызы уваходзяць з правам пастаноўчага голасу:

а) прадстаўнік, назначаны органамі аховы здароўя пасьля ўзгадненьня з акруговым аб'яднаньнем прафэсіянальных саюзаў і камітэтам акруговай страховай касы (за старшыню);

б) 3 лекары-экспэрты (тэрапэўт, хірург і нэўрапаталёг);

в) прадстаўнік камітэту акруговай страхавой касы;

г) сакратар—тэхнічны працаўнік (бяз права пастаноўчага голасу).

*Увага* 1. Калі абглядаецца кантынгэнт сацыяльнага забясьпечаньня і ваеннага ведамства, то замест прадстаўніка страхавой касы ўваходзіць прадстаўнік гэтых арганізацый.

*Увага* 2. Калі трэба, то акруговае бюро лекарскай экспэртызы мае права запрашаць у свой склад спэцыялістаў—кансультантаў.

18. Арганізацыя акруговага бюро лекарскай экспэртызы ўскладаецца на акруговы выканаўчы камітэт.

19. Утрыманьне старшыні, лекараў-экспэртаў і сакратара праходзіць на каштарысу органаў аховы здароўя.

20. Дні і гадзіны пасяджэньня акруговага бюро лекарскай экспэртызы ўстанаўляюцца акруговымі выканаўчымі камітэтамі пасьля ўзгадненьня з акруговымі саветамі прафэсіянальных саюзаў.

**Г. Група інваліднасьці.**

21. У залежнасьці ад таго, на колькі страчана працаздольнасьць, інваліды дзеляцца на наступныя 6 груп:

*Да першай групы* належаць асобы, якія страцілі здольнасьць ня толькі да ўсялякай працы, якая дае заработак, але і патрабуюць дапамогі ад іншых асоб.

*Да другой групы* належаць асобы, якія страцілі здольнасьць да ўсялякай працы, якая дае заработак, але не патрабуюць дапамогі ад іншых асоб.

*Да трэцяй групы* належаць асобы, якія страцілі здольнасьць да ўсялякай рэгулярнай працы, але могуць працаваць на выпадковай, часовай і пры тым лёгкай працы.

*Да чацьвертай групы* належаць асобы, якія страцілі здольнасьць да свае прафэсіі і могуць выконваць працы больш ніжэйшай кваліфікацыі і тарыфікацыі.

*Да пятай групы* належаць асобы, якія страцілі здольнасьць да свае прафэсіі і могуць выконваць працу па другой прафэсіі тае самай кваліфікацыі і тарыфікацыі.

*Да шостай групы* належаць асобы, якія здольны выконваць сваю прафэсіянальную працу, але з меншаю прадукцыйнасьцю.

Народны Камісар Аховы Здароўя БССР **М. Барсукоў.**

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Я. Мяркулаў.**

Інспэктар Лек.-Праф. Часткі Н. К.
Аховы Здароўя БССР **М. Фурс.**

28 верасьня 1928 г.
№ 52.

---

*Узгоднена з НКЮ БССР*
*№ 4406-1 і ВСНХ БССР*
*№ 9699.*

## 10. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў БССР

**пра парадак адчыненьня прадпрыемстваў паліграфічнай прамысловасьці, нагляд за імі і пра парадак карыстаньня хутка-друкарскімі і друкарскімі апаратамі.**

(Выдана на падставе арт. 6 пастановы СПА за 26 ліпеня 1922 г. аб парадку вырабу і гандлю машынамі і шрыфтамі і арт. 10 пастановы СПА за 2 сьнежня 1922 г. аб парадку адчыненьня друкарняў і аб наглядзе за імі).

### I. Парадак адчыненьня.

1. Друкарскія прадпрыемствы (друкарні, літаграфіі, цынкаграфіі і інш.) могуць адчыняцца дзяржаўнымі, каперацыйнымі, грамадзкімі ўстановамі, арганізацыямі і прадпрыемствамі, а таксама прыватнымі асобамі і аб'яднаньнямі іх толькі пасьля атрыманьня на гэта адпаведнага дазволу.

2. Выраб і гандаль друкарскімі машынамі, шрыфтамі, множнікамі, хутка-друкарскімі апаратамі (рататарамі, сьцяклографамі, шапірографамі, гектографамі і інш.) і прыладамі да іх могуць распачынацца:

а) спэцыяльна ўтворанымі для гэтай мэты дзяржаўнымі, гандлёвымі гандлёва-прамысловымі прадпрыемствамі паліграфічнай прамысловасьці без дазволу, але з абавязковым паведамленьнем (арт. 7) адпаведных адміністрацыйных аддзелаў;

б) іншымі дзяржаўнымі, каперацыйнымі і грамадзкімі ўстановамі, арганізацыямі і прадпрыемствамі, а таксама прыватнымі асобамі і аб'яднаньнямі іх ня іначай, як пасьля атрыманьня на гэта адпаведнага дазволу.

3. Дазволы на адчыненьне паказаных у арт. 1 і ў п. „б“ арт. 2 прадпрыемстваў выдаюцца на месцы адчыненьня гэтых прадпрыемстваў адпаведнымі акруговымі адміністрацыйнымі аддзеламі.

4. Прамысловыя і гандлёвыя патэнты прадпрыемствам паліграфічнай прамысловасьці (арт. арт. 1 і 2) могуць выдавацца фінансавымі аддзеламі выканаўчых камітэтаў толькі пасьля атрыманьня дазволаў (арт. 3) адміністрацыйных аддзелаў.

5. Заявы, якія падаюцца ў органы, паказаныя у арт. 3 гэтай інструкцыі, павінны быць аплочаны гэрбавым зборам (па 2-му разраду у разьмеры 2-х рублёў) і зьмяшчаць у сябе дакладныя паказаньні—кім, дзе і на адчыненьне якога прадпрыемства просіцца дазвол.

*Увага.* Не аплачваюць памянёных заяў гэрбавым зборам установы, арганізацыі і прадпрыемствы, паказаныя ў „Пераліку выняткаў з дзяржаўнага гэрбавага збору“ (З. З. СССР 1927 г., № 55, арт. 533).

6. Пры падачы заявы аб выдачы дазволу (арт. 1 і п. „б“ арт. 2) на адчыненьне друкарскага, вытворчага ці гандлёвага прадпрыемства паліграфічнай прамысловасьці, заяўнікамі запаўняюцца анкеты на прадпрыемствы і на адказных асоб прадпрыемства паводле формаў № 1 і № 2.

На адчыненьне друкарскага прадпрыемства, апроч запаўненьня анкет паводле формаў № 1 і № 2, заяўнікамі падаюцца зьвесткі аб мяркуемай магутнасьці абсталяваньня прадпрыемства паводле формы № 3.

Анкеты паводле формы № 2 падаюцца на ўсіх адказных асоб (загадчыкаў, кіраўнікоў, іх памочнікаў) даннага паліграфічнага прадпрыемства, прычым каперацыйныя, грамадзкія і прыватныя аб‘яднаньні падаюць паказаныя анкеты на кожнага члена распарадчага органу аб‘яднаньня.

*Увага.* Памянёныя ў гэтым артыкуле анкеты і зьвесткі падаюцца ў 2-х экзэмплярах.

7. Спэцыяльна ўтвораныя дзяржаўныя, гандлёвыя і гандлёва-прамысловыя арганізацыі паліграфічнай прамысловасьці (п. „а“ арт. 2), а таксама прадпрыемствы, якія адчыняюцца для вырабу ці гандлю друкарскімі машынамі, шрыфтамі, хутка-друкарскімі і множнымі апаратамі і прыладамі да іх, за два тыдні да фактычнага адчыненьня гэтых прадпрыемстваў паведамляюць адпаведны адміністрацыйны аддзел аб месцы іх знаходжаньня і падаюць у 2-х экз. анкеты паводле формы № 1 і № 2 на адказных асоб (загадчыкаў, кіраўнікоў, іх памочнікаў).

8. Аб усялякіх зьменах загадчыкаў, кіраўнікоў (ці іх памочнікаў) паліграфічных прадпрыемстваў, а таксама аб зьмене пэрсанальнага складу каперацыйнага, грамадзкага ці прыватнага аб‘яднаньня установы, арганізацыі, прадпрыемствы і асобы (уладары) паведамляюць адміністрацыйнаму аддзелу, які выдаў дазвол на адчыненьне прадпрыемства, падаючы на гэтых асоб у 2-х экз. анкету паводле формы № 2.

9. Атрымаўшы заяву з хадайніцтвам аб выдачы дазволу на адчыненьне таго ці іншага паліграфічнага прадпрыемства, адміністрацыйны аддзел павінен на працягу месяца разглядзець яе, праверыць анкеты і ці выдаць дазвол на права адчыненьня прадпрыемства, ці адмовіць у выдачы такога.

*Увага.* Дазволы на адчыненьне друкарскіх прадпрыемстваў выдаюцца адміністрацыйнымі аддзеламі, калі ёсьць станоўчае заключэньне акруговых інспэкцый мясцовай прамысловасьці.

10. Выданы ў паказаным вышэй парадку дазвол на адчыненьне паліграфічнага прадпрыемства павінен быць скарыстаны на працягу аднаго году, пасьля чаго для адчыненьня прадпрыемства патрэбен новы дазвол.

11. Паліграфічныя прадпрыемствы могуць перадавацца толькі тады, калі аб'яднаньне ці асоба, якой прадпрыемства перадаецца, атрымала дазвол у парадку, прадугледжаным гэтаю інструкцыяю.

*Увага.* Друкарскія прадпрыемствы ад аднэй установы ці асобы другой перадаюцца толькі з дазволу адміністрацыйнага аддзелу і акруговай інспэкцыі мясцовай прамысловасьці адпаведнага выканаўчага камітэту.

**II. Парадак набываньня і карыстаньня.**

12. Друкарскія машыны, шрыфты, хуткадрукарскія і множныя апараты і прылады да іх прадаюцца без якіх-небудзь абмежаваньняў усім гандлюючым прадпрыемствам (дзяржаўным, каперацыйным, грамадзкім і прыватным), якія маюць дазволы на адчыненьне гэтых прадпрыемстваў у парадку данай інструкцыі.

13. Тыя самыя прадметы дзяржаўным, каперацыйным і прыватным прадпрыемствам могуць прадавацца пасьля паданьня імі дазволу на адчыненьне і функцыянаваньне друкарскага прадпрыемства (друкарні, літаграфіі і інш.).

14. Множныя і хуткадрукарскія апараты і прылады да іх прадаюцца паводле спэцыяльных дазволаў адпаведных адміністрацыйных аддзелаў, якія выдаюцца для набываньня гэтых апаратаў дзяржаўным, каперацыйным, грамадзкім установам, арганізацыям і прадпрыемствам, а таксама паасобным прыватным асобам і іх аб'яднаньням. Паказаныя дазволы астаюцца, як апраўдальныя дакумэнты, у мясцох продажу.

15. Дзяржаўныя, каперацыйныя, грамадзкія і прыватныя ўстановы, арганізацыі, прадпрыемствы і аб'яднаньні, а таксама паасобныя прыватныя асобы, якія маюць для ўнутранага карыстаньня хуткадрукарскія і множныя апараты, на права карыстаньня такімі павінны мець асобныя дазволы адміністрацыйных аддзелаў.

*Увага.* Дазволы на права карыстаньня выдаюцца адміністрацыйнымі аддзеламі адначасова з дазволамі на права набываньня множных і хуткадрукарскіх апаратаў.

16. Аплочаныя гэрбавым зборам заявы аб выдачы дазволаў на права набываньня і карыстаньня множнымі і хуткадрукарскімі апаратамі падаюцца (асабіста ці поштаю) у органы, памянёныя ў арт. 3 гэтай інструкцыі, і павінны зьмяшчаць у сябе паказаньні—кім, дзе (дакладны адрэс) і на што як-раз і для якой мэты просіцца дазвол. Да заявы павінны быць прыкладзены ў 2-х экзэмплярах анкеты, якія запаўняюцца паводле формы № 4.

*Увага.* Заявы ўстаноў, арганізацый і прадпрыемстваў, паказаных у „Пераліку выняткаў з дзяржаўнага гэрбавага збору“ (З. З. СССР 1927 г., № 55, арт. 533), гэрбавым зборам не аплачваюцца.

17. Дзяржаўныя ўстановы і грамадзкія (прафэсіянальныя, каперацыйныя і інш.) арганізацыі анкет не падаюць, але ў хадайніцтве аб выдачы дазволу павінна быць паказана службовая асоба, якая будзе адказваць за захаваньне і карыстаньне множным апаратам. Аб усялякіх зьменах і заменах гэтых асоб трэба паведамляць адміністрацыйнаму аддзелу.

18. Установы, арганізацыі, аб'яднаньні і асобы, якія карыстаюцца множнымі і хуткадрукарскімі апаратамі, павінны скарыстоўваць гэтыя апараты толькі для мэт, паказаных у дазволе, і захоўваць іх так, каб выключалася усякая магчымасьць скарыстаньня іх іншымі асобамі.

19. Установы, арганізацыі, аб'яднаньні і асобы, якія страцілі права карыстаньня множнымі і хуткадрукарскімі апаратамі альбо адмовіліся

паводле якіх-небудзь мяркаваньняў ад гэтага права, павінны выданыя ім дазволы вярнуць (поштаю ці асабіста) у тыя адміністрацыйныя аддзелы, ад якіх гэтыя дазволы атрыманы, а множныя і хуткадрукарскія апараты, што ёсьць у іх, перадаць, уступіць ці прадаць установам, арганізацыям, прадпрыемствам, аб'яднаньням ці асобам, якія маюць права набываць і скарыстоўваць множныя і хуткадрукарскія апаратамі, аб чым таксама трэба паведаміць адміністрацыйны аддзел.

20. Калі хуткадрукарскі ці множны апарат, які знаходзіцца ў карыстаньні ўстановы, арганізацыі, аб'яднаньня ці асобы, зрабіўся няўжытным, то такі зьнішчаецца, ці перарабляецца так, каб яго нельга было далей скарыстаць, як хуткадрукарскі ці множны апарат, аб чым паведамляецца адміністрацыйны аддзел, які выдаў дазвол на права набываньня і карыстаньня такім апаратам. Адначасова з гэтым, калі установе, арганізацыі, аб'яднаньню ці асобе трэба набыць новы хуткадрукарскі ці множны апарат тае самай сыстэмы, паднімаецца хадайніцтва аб выдачы новага дазволу на права набыцьця такога (дазвол на права карыстаньня астаецца стары), які выдаецца парадкам, устаноўленым гэтаю інструкцыяю. Калі дазвол на набыцьцё новага апарату ня просіцца, то дазвол на права карыстаньня множным ці хуткадрукарскім апаратам варочаецца адміністрацыйнаму аддзелу, які выдаў такі.

21. Калі трэба набыць хуткадрукарскі ці множны апарат іншай сыстэмы (дадаткова да апарату, які ўжо ёсьць, альбо з прычыны няўжытнасьці раней набытага апарату), то абавязкова павінны быць атрыманы і дазвол на набыцьцё і дазвол на карыстаньне такім.

### III. Парадак нагляду.

22. Друкарскія прадпрыемствы павінны у асобнай інвэнтарай кнізе весьці дакладны падлік абсталяваньня прадпрыемстваў, паказваючы час і месца яго набыцьця. Аб усякай зьмене абсталяваньня друкарскага прадпрыемства, а таксама аб здачы, паводле пастановы СПА СССР за 2 лістапада 1927 году, няўжытнага друкарскага шрыфту (гарта) у дзяржаўныя словалітні друкарскія прадпрыемствы павінны на працягу месяца паведаміць у адміністрацыйны аддзел паводле ф. № 5.

23. Кожнае друкарскае прадпрыемства павінна мець кнігу, пранумараваную, прашнураваную і прапячатаную сургучнаю пячаткаю адміністрацыйнага аддзелу, які выдаў дазвол на адчыненьне друкарскага прадпрыемства. У гэтую кнігу запісваюцца ўсе вызначаныя для друкаваньня работы, з паказаньнем заказчыка, колькасьці экзэмпляраў, фармату выданьня і № дазволу адпаведнага органу Галоўліту. Да гэтай кнігі друкарскімі прадпрыемствамі павінен быць заведзены нарад апраўдальных дакумэнтаў на выкананыя работы.

24. Па патрабаваньні адміністрацыйнага аддзелу, акруговай інспэкцыі мясцовай прамысловасьці альбо органу Галоўліту і АДПУ друкарскія прадпрыемствы павінны даваць для перагляду, праверкі і кантролю кнігі запісаў выкананых работ і апраўдальныя дакумэнты да іх, а таксама і інвэнтарныя і іншыя кнігі, якія вядуцца гэтымі прадпрыемствамі.

25. Прадпрыемствы для вырабу і гандлю прадметамі паліграфічнага абсталяваньня павінны весьці дакладны падлік усіх машын, шрыфтаў, множных і хуткадрукарскіх апаратаў і прыладаў да іх, якія ёсьць, вырабляюцца, набываюцца і прадаюцца.

26. Падлік друкарскіх машын, шрыфтаў і прыладаў да іх, якія ёсьць, вырабляюцца, набываюцца і прадаюцца, у вытворчых і гандлюючых паліграфічных прадпрыемствах вядзецца альбо ў спэцыяльных (таварных, матар'яльных і інш.) кнігах, альбо асобнымі рахункамі,

карткамі і інш. (па адвольнай форме), але з такім разьлікам, каб заўсёды можна было праверыць наяўную, вырабленую, набытую і прададзеную прадукцыю з паказаньнем, адкуль, ад каго, калі, колькі (вага, колькасьць) гэта прадукцыя атрымана ў прадпрыяства, каму (адрэс), як, калі, што як-раз і па якому дазволу выдадзена ці прададзена.

27. Калі запісваюцца на прыход у таварныя кнігі накладныя ці іншыя дакумэнты на машыны, шрыфты, хуткадрукарскія і множныя апараты і прылады да іх, якія ўпяршыню атрымоўваюцца ў прадпрыемстве і інш., то лавінны паказвацца прадпрыемствы, з якіх яны атрыманы.

28. Калі пералічаныя вышэй прадметы прадаюцца, то ў тых самых кнігах і продажных дакумэнтах павінны быць паказаны нумар і дата дазволу адміністрацыйнага аддзелу, на падставе якога яны прададзены, і прозьвішча (з адрэсам) аб'яднаньня ці асобы, якія набылі гэтыя прадметы; дазволы адміністрацыйных аддзелаў на права набыцьця паказаных прадметаў астаюцца і захоўваюцца ў мясцох продажу, як апраўдальныя дакумэнты.

29. Калі прадметы паліграфічнага абсталяваньня прадаюцця ці вырабляюцца друкарскім і гандлюючым прадпрыемствам (арт. арт. 13 і 14), то апраўдальнымі дакумэнтамі ў вытворчых і гандлюючых прадпрыемствах зьяўляюцца копіі з выдадзеных адміністрацыйнымі аддзеламі дазволаў на права адчыненьня і функцыянаваньня прадпрыемстваў, што набываюць паказаныя рэчы. Памянёныя копіі сьведчацца пячаткаю (калі такая ёсьць) і подпісамі адказных асоб прадпрыемстваў, якія купляюць гэтыя прадметы.

30. Адказныя асобы і ўладары вытворчых і гандлюючых прадпрыемстваў паліграфічнай прамысловасьці павінны па патрабаваньні асоб, упаўнаважаных на гэта адміністрацыйнымі аддзеламі ці акруговаю інспэкцыяю мясцовай прамысловасьці, даваць для перагляду, праверкі і кантролю гандлёвыя, матар'яльныя, таварныя і спэцыяльныя падліковыя кнігі прадпрыемства, а таксама апраўдальныя дакумэнты продажу і выдачы прадметаў паліграфічнай вытворчасьці.

31. Нагляд за выкананьнем прадпрыемствамі для вырабу і гандлю прадметамі паліграфічнага абсталяваньня, множнымі і хуткадрукарскімі апаратамі і друкарскімі прадпрыемствамі ўстаноўленых да іх адчыненьня правілаў, а таксама за вядзеньнем устаноўленага гэтаю інструкцыяю падліку прадметаў паліграфічнай вытворчасьці ўскладаецца на акруговыя адміністрацыйныя аддзелы і органы АДПУ.

32. Установы, арганізацыі, прадпрыемствы, аб'яднаньні і асобы, якія карыстаюцца множнымі і хуткадрукарскімі апаратамі (ратагарамі, сьцяклографамі, шапірографамі, гектографамі і інш.) і ня маюць зараз ад адміністрацыйных аддзелаў дазволаў на права карыстаньня гэтымі апаратамі, павінны (парадкам, устаноўленым арт. арт. 15 і 17 гэтай інструкцыі) зарэгістраваць такія ў адпаведных акруговых адміністрацыйных аддзелах і атрымаць адтуль дазвол на права карыстаньня.

33. Тэрміны з тлумачэньнем парадку рэгістрацыі множных і хуткадрукарскіх апаратаў і парадку атрыманьня дазволаў на права карыстаньня такімі ўстанаўляюцца адпаведна з мясцовымі ўмовамі акруговымі адміністрацыйнымі аддзеламі праз афіцыйныя абвяшчэньні аб гэтым у мясцовым друку.

34. Правілы гэтай інструкцыі не пашыраюцца на выраб, гандаль і на карыстаньне пішучымі машынамі і арыфмомэтрамі. Пішучыя машыны і арыфмомэтры выраблююцца, прадаюцца, набываюцца і скарыстоўваюцца без жадных рэгістрацый і дазволаў адміністрацыйных аддзелаў.

35. Парушэньне правілаў аб парадку адчыненьня і эксплёатацыі друкарскіх і вытворчых прадпрыемстваў паліграфічнай прамысловасьці і аб парадку карыстаньня множнымі і хуткадрукарскімі апаратамі, а таксама правілаў адчыненьня гандлёвых прадпрыемстваў паліграфічнай прамысловасьці і правілаў для гандлю машынамі, шрыфтамі, множнымі і хуткадрукарскімі апаратамі і прыладамі да іх выклікае ў належных выпадках адказнасьць у судовым парадку паводле адпаведных артыкулаў К. К.

36. Прадпрыемствы паліграфічнай прамысловасьці (друкарскія, вытворчыя і гандлёвыя) могуць быць зачынены толькі ў судовым парадку. Калі паднімаецца справа аб парушэньнях правілаў карыстаньня множнымі і хуткадрукарскімі апаратамі, то адміністрацыйныя аддзелы адначасова могуць падняць перад народным судом пытаньне аб пазбаўленьні парушнікаў права карыстацца гэтымі апаратамі.

37. З часу выданьня гэтай інструкцыі касуецца інструкцыя НКУС БССР аб парадку выдачы дазволаў на гандаль друкарскімі машынамі і шрыфтамі і на адчыненьне друкарскіх прадпрыемстваў за 9/III-1926 г. (Бюл. СНК БССР 1926 г., № 4, ст. 16).

*Дадатак.* Формы №№ 1, 2, 3, 4 і 5.

Нам. Нороднага Камісара Ўнутраных Спраў БССР **Я. Кроль.**

10 кастрычніка 1928 г.

---

*Дадатак I*

Форма № 1

## Анкета на прадпрыемства.

1. Назва прадпрыемства і прозьвішча, імя і імя па бацьку адказнай асобы . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

2. Якое паліграфічнае прадпрыемства жадае адчыніць . . . . .

3. Дакладны адрэс прадпрыемства . . . . . . . . . . . . . .

4. На якіх умовах адчыняецца прадпрыемства . . . . . . . . .

а) ці бярэ ў арэнду абсталяванае прадпрыемства . . . . .

б) ці купляе ў асобы альбо арганізацыі абсталяванае прадпрыемства . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

в) ці адчыняе новае прадпрыемства . . . . . . . . . . . .

*Увага.* У першых двух выпадках прыкладаецца копія дагавору ці калі дагавор ня зроблены, дык з кім робіцца дагавор.

5. Калі вызначаны плян работы прадпрыемства, дык паказаць чые заказы пераважна будуць выконвацца . . . . . . . . . .

6. На якую колькасьць рабочых абсталявана прадпрыемства і якая колькасьць ёсьць зараз . . . . . . . . . . . . . . . . .

„. . “ . . . . . . . . . 192 . . г.

*Подпіс прадпрыемца*

---

*Дадатак 2*

Форма № 2

## Анкета на адказных асоб.

1. Прозьвішча, імя і імя па бацьку . . . . . . . . . . .
2. Час і месца нараджэньня . . . . . . . . . . . . . . .
3. Пахаджэньне (был. стан, нацыянальнасьць) . . . . . . . . .
4. Хатні адрэс . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
5. Маемаснае становішча да і пасьля рэвалюцыі . . . . . . . .
6. Асьвета (пералічыць усе школы і дзе яны знаходзіліся) . . .
7. Асноўная прафэсія і месца службы і пасада зараз . . . . .
8. Ці служыў ў старой арміі і кім . . . . . . . . . . . . .
9. Ці служыў ў Чырвонай Арміі і на якой пасадзе . . . . . .
10. Дзе жыў, чым займаўся і на якой пасадзе:
    а) да кастрычнікавага перавароту 1917 году . . . . . . .
    б) з кастрычнікавага перавароту да паступленьня ў данае прадпрыемства . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
11. Апошняе месца службы і чаму яно было пакінута . . . . .
12. Ці лічыцца пайшчыкам, кампаньёнам, акцыянэрам і інш. якога-небудзь прамысловага ці гандлёвага прадпрыемства і якога . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
13. Да якой палітычнай партыі належыць, час паступленьня, № членскага білету . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
14. Ці быў раней у якіх-небудзь палітычных партыях, у якіх, дзе і калі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
15. Ці прыцягваўся да суда і сьледзтва, ці нёс адказнасьць у судовым ці адміністрацыйным парадку, дзе, калі і за што . . . .
16. Ці займаў пасьля рэвалюцыі якія-небудзь выбарныя пасады, якія, дзе і калі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*Подпіс*

---

*Дадатак 3*

Форма № 4

## Анкета на адказную асобу за карыстаньне множным апаратам.

1. Прозьвішча, імя і імя па бацьку . . . . . . . . . . .
2. Час і месца нараджэньня . . . . . . . . . . . . . . .
3. Пасада цяпер . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
4. Апошняе месца службы і чаму яно было пакінута . . . . .
5. Партыйнасьць (№ білету) . . . . . . . . . . . . . . .
6. Членам якога прафэс. саюзу зьяўляецца і № білету . . . .
7. Асьвета . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
8. Ці прыцягваўся да суда, арышту і за што . . . . . . . .
9. Для якіх мэт набываецца апарат . . . . . . . . . . . .
10. Хатні адрэс . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
11. Адрэс прадпрыемства і № тэлефону . . . . . . . . . . .

*Подпіс*

*Дадатак 4*

Форма № 3.

## Зьвесткі аб абсталяваньні прадпрыемстваў паліграфічнай прамысловасьці.

(Для рэгістрацыі прадпрыемстваў, якія існуюць і адчыняюцца).

Назва прадпрыемства . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Пад чым ведамам знаходзіцца . . . . . . . . . . . . . . . . .

| Парадкавыя №№ | НАЗВА МАШЫН | Колькасьць машын | Фірма і марка | Год выпуску | №№ машын | Разьмер | Увага | Парадкавыя №№ | Назва шрыфту і матрыц | Кілё вага | Кегль | Камплектаў матрыц | | | | | | | | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | | Ліна-тып | | Мона-тып | | Ціно-граф | | Мона-лейн | | Вага ў кл. | |
| | | | | | | | | | | | | 3 курс. | 3 дрэўн. | 3 курс. | 3 дрэўн. | 3 курс. | 3 дрэўн. | 3 курс. | 3 дрэўн. | Ёсьць гарту | |
| 1 | **Друкарскія машыны** | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | Ратац. газэтныя | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | „ кніжныя | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | „ літаграфскія | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | Роўныя друкарскія | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | „ літаграфскія | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | Амэрыканкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | Бастонкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | Ціскальныя | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | Варштакі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | Літаграфскія | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | Варштакі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | а) роўныя | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | б) прывадныя | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | Білетадрукарск. варштакі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | Меццо-цінто-офсет | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | Розныя ціскачы | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | Усяго друкарск. машын | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 2 | **Наборныя машыны** | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | Лінотып | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | Тыпографскія | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | Моналейныя | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | Усяго наборн. машын | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 3 | **Словалітныя машыны** | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 4 | **Пераплёт. машыны** | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | Рэзальныя | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | Швальныя | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | Субільныя | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | Тачыльныя | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | Змывальныя | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |

*Дадатак 5.*

Форма № 5.

## Зьвесткі аб зьменах абсталяваньня ў друкарскіх прадпрыемствах

(Падаецца не пазьней, як праз месяц пасьля зьмен у абсталяваньні).

Назва прадпрыемства . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . Адрэс . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

| Парадкавыя №№ | Год, месяц і дзень | Друкарскае, словалітнае і інш. аддзяленьне | | | | | | | Увага | Парадкавыя №№ | Год, месяц і дзень | Наборнае аддзяленьне | | | | | | | | | | | | Адкуль паступіла | Куды выбыла | Ссыпана ў гарт | Здача гарту ў дзярж. словаліт. | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | НАЗВА МАШЫН | Фірма і марка | Год выпуску | №№ машын | Разьмер | Адкуль прыбылі машыны | Куды выбылі машыны | | | | Назва шрыфту і матрыц | Кілё | Вага | Кегль | Камплектаў матрыц | | | | | | | | | | Кілё | Кілё | |
| | | | | | | | | | | | | | | | | Ліна-тып | | Мона-тып | | Мона-лейн | | Тыпа-граф. | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | | | | 3 курс. | 3 дрэўн. | 3 курс. | 3 дрэўн. | 3 курс. | 3 дрэўн. | 3 курс. | 3 дрэўн. | | | | | |

## 11. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

**пра цьвёрдую натуральную памольную плату збожжам за перапрацоўку на дзяржаўных, каперацыйных і прыватных млынох і крупадзёрках збожжа сялянскіх і іншых прыватных памольцаў.**

На падставе пастановы Савету Працы і Абароны за 31 жніўня 1928 г. (пратакол № 387) і Савету Народных Камісараў БССР за 5/IX 1928 г. (прат. № 58), Народны Камісарыят Гандлю БССР, для зьмены свае пастановы за 6 чэрвеня 1928 г. № 44 (Бюлетэнь СНК БССР за 1928 г., № 8(51), пастанаўляе:

1. Устанавіць на ўсіх дзяржаўных, каперацыйных і прыватных млынных прадпрыемствах і крупадзёрках, незалежна ад роду рухавіка (мэханічныя, вадзяныя, конныя, ветраныя і інш.), а таксама ад месца іх знаходжаньня (сельскія, гарадзкія), *абавязковую плату за перапрацоўку збожжа сялянскіх і іншых прыватных памольцаў толькі натураю—збожжам* і забараніць браць памольную плату ва ўсякай іншай форме.

*Увага.* Плата за памол натураю не пашыраецца на збожжа якое перапрацоўваецца для дзяржаўных і каперацыйных арганізацый і ваеннага ведамства, для якіх захоўваюцца памольныя стаўкі і сыстэма расплаты, устаноўленыя пастановамі Эканамічнай Нарады за 22/VI 1927 г. і за 18/VIII 1927 г. і Народнага Камісарыяту Гандлю БССР за 14/IX 1927 г. і за 5/II 1928 г.

2. Устанавіць цьвёрдую плату натураю (збожжам) за перапрацоўку збожжа сялянскіх і іншых прыватных памольцаў на млынных прадпрыемствах і крупадзёрках, паказаных у арт. 1 гэтай пастановы, грунтуючыся на разрахунку раней існаваўшай памольнай платы ў грашовай форме, паводле пастановы Эканамічнай Нарады за 22/VI 1927 г. і загатоўчай канвэнцыйнай цане, устаноўленай для раёну, у якім знаходзіцца данае млыннае прадпрыемства ці крупадзёрка.

*Увага 1.* Плата за перапрацоўку збожжа павінна брацца толькі тою культураю, якая даецца памольцам для перапрацоўкі.

*Увага 2.* Плата за памол бярэцца за тую колькасьць збожжа, якая фактычна перапрацоўваецца для памольца, ня ўключаючы ў гэтую колькасьць збожжа, атрыманае за памол.

3. Забараніць млынным прадпрыемствам браць за памол больш устаноўленай цьвёрдай платы, напрыклад, вотрубі і іншыя адходы, якія павінны ўсе дачыста здавацца памольцу.

4. Паказаныя ў арт. 1 гэтай пастановы млынныя прадпрыемствы і крупадзёркі павінны ўсё збожжа, атрыманае за перапрацоўку, здаваць цалкам Саюзхлебу і бліжэйшай спажывецкай капярацыі па цане, паказанай у арт. 5 гэтай пастановы. Пры чым Саюзхлебу здаюць млыны і крупадзёркі, якія знаходзяцца ў акруговых гарадох і гарадох—Барысаве, Слуцку, Рэчыцы, Клімавічах і Рагачове, а спажывецкай капярацыі здаюць усе іншыя млыны, якія знаходзяцца ва ўсіх іншых гарадзкіх і сельскіх мясцовасьцях.

5. Саюзхлеб і спажывецкая капярацыя прымаюць ад млыноў збожжа памольнага збору па загатоўчай канвэнцыйнай цане, устаноўленай для раёну знаходжаньня данага млыну з дапасаваньнем боніфікацыі і рэфакцыі за якасьць збожжа, пры чым гэтая цана выплачваецца франко млын, а збожжа на склад Саюзхлеба альбо капярацыі можа дастаў-

ляцца млынным прадпрыемствам па ўзаемнай згодзе за плату, па фактычнаму кошту перавозкі.

6. Памольны збор павінен здавацца млыннымі прадпрыемствамі Саюзхлебу і спажывецкай капярацыі збожжам, прычым перапрацоўка яго ў муку альбо крупу можа рабіцца даным млыном толькі па ўзаемнай згодзе за плату за перапрацоўку грашмі, паводле ўвагі да арт. 1 гэтай пастановы.

7. Белкапсаюз і Саюзхлеб павінен на працягу пяці дзён ад дня апублікаваньня гэтай пастановы абвясьціць усім млынным прадпрыемствам, якія павінны здаваць ім памольны збор установленыя для раёну знаходжаньня данага млыну загатоўчыя канвэнцыйныя цэны на збожжа ўсіх культур.

8. Млынныя прадпрыемствы павінны вывесіць у млынох на відным месцы табліцу загатоўчых канвэнцыйных цэн, а таксама табліцы памольнай платы, якая існавала раней у грашовай форме, паводле пастановы Эканамічнай Нарады пры СНК БССР за 22/VI 1927 г., і ў натуральнай форме (збожжам), якая адпавядае загатоўчым канвэнцыйным цэнам, устаноўленым для данага раёну. Правільнасьць вывешаных табліц павінна правярацца адпаведнымі акруговымі інспэктарамі гандлю і раённымі выканаўчымі камітэтамі.

9. Млынныя прадпрыемствы павінны зрабіць гадовыя дагаворы з Саюзхлебам і спажывецкаю капярацыяю па належнасьці на здачу апошнім усяго памольнага збору, атрыманага ад памольцаў за перапрацоўку на працягу тэрміну дагавору, у дагаворы продугледжваюцца няўстойкі і адказнасьць па суду за няпоўную здачу памольнага збору.

*Увага.* Колькасьць збожжа памольнага збору, якая павінна быць здадзена на працягу аперацыйнага году, арыентыровачна вызначаецца ў дагаворы, грунтуючыся на разьмеры нагрузкі млына, вылічанай органамі Народнага Камісарыяту Фінансаў пры абкладаньні іх падаткамі.

10. Каб кантраляваць ці правільна бяруць млынныя прадпрыемствы ад памольцаў памольны збор, Саюзхлеб і спажывецкая капярацыя павінна забясьпечыць млынныя прадпрыемствы пранумараванымі і прапячатанымі з карэнчыкамі квітковымі кніжкамі, з якіх млынныя прадпрыемствы павінны выдаваць памольцам квіткі аб прыняцьці ад апошніх памольнага збору, паказваючы колькасьць і культуру збожжа.

11. Саюзхлеб і спажывецкая капярацыя павінны своечасова забіраць ад млыноў памольны збор, ня зьбіраючы вялікіх партый, а забіраць па магчымасьці па меры назьбіраньня збожжа на адну падводу, прычым, калі будзе назьбірана збожжа 8 цэнтнераў і больш, млынныя прадпрыемствы павінны неадкладна паведаміць аб гэтым Саюзхлеб альбо капярацыю, якія павінны забраць гэтае збожжа на працягу трох дзён.

12. Ва ўсіх млынных прадпрыемствах і крупадзёрках завесьці штодзённы запіс усяго перамолатага за дзень збожжа, а таксама ўсяго атрыманага за памол збожжа па асобных культурах, паказваючы за які памол апошнія атрыманы.

13. Белкапсаюз і Саюзхлеб павінны арганізаваць прыйманьне іх філіаламі ад млынных прадпрыемстваў і крупадзёрак памольнага збору і ўстанавіць адпаведны кантроль за поўным і своечасовым атрыманьнем апошняга.

14. Нагляд за выкананьнем гэтай пастановы ўскладаецца на акруговых інспэктароў гандлю, на раённыя выканаўчыя камітэты, сельскія саветы і міліцыю.

15. Гэта пастанова ўваходзіць у сілу з моманту яе апублікаваньня.

16. Вінаватыя ў парушэньні гэтай пастановы прыцягваюцца да адказнасьці паводле артыкулу 141 Крым. Кодэксу.

Дадатак. Табліца памольнай платы (на стар. 30 і 31).

Народны Камісар Гандлю БССР **Я. Адамайціс.**

Сакратар Народнага Камісарыяту
Гандлю БССР **К. Верамейчык.**

27 верасьня 1928 г.
№ 55.

---

## 12. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

### пра зьмену свае пастановы за 27 верасьня 1928 г. № 55 аб парадку здачы млыннымі прадпрыемствамі памольнага збору.

Для зьмены арт. арт. 4, 5, 6, 7, 9, 10, 11 і 13 свае пастановы за 27 верасьня 1928 г. № 55 „Пра цьвёрдую натуральную памольную плату (збожжам) за перапрацоўку на дзяржаўных, каперацыйных і прыватных млынох і крупадзёрках збожжа сялянскіх і іншых прыватных памольцаў“ (газэта „Савецкая Беларусь“ за 28/IX 1928 г. № 224), Народны Камісарыят Гандлю БССР, на падставе пастановы Эканамічнай Нарады пры СНК БССР за 2 кастрычніка 1928 г., пастанаўляе:

1. Усе дзяржаўныя, каперацыйныя і прыватныя гарадзкія і сельскія млынныя прадпрыемствы павінны здаваць увесь атрыманы натуральны памольны збор бліжэйшай спажывецкай капярацыі на паказаных у пастанове Народнага Камісарыяту Гандлю БССР за 27 верасьня 1928 г. умовах.

2. Усе існуючыя паміж Саюзхлебам і млыннымі прадпрыемствамі дагаворы аб здачы Саюзхлебу памольнага збору перадаць на працягу не пазьней аднаго тыдня ад дня апублікаваньня гэтай пастановы спажывецкім каперацыйным арганізацыям, якія знаходзяцца ў раёне даных млыноў, і з гэтага моманту ўсе абавязкі, ускладзеныя на Саюзхлеб у дачыненьні да парадку атрыманьня памольнага збору, ускладаюцца на спажывецкую капярацыю.

Народны Камісар Гандлю БССР **Я. Адамайціс.**

Сакратар Народнага Камісарыяту
Гандлю БССР **К. Верамейчык.**

4 кастрычніка 1928 г.
№ 1.

---

## Табліца памольнай платы натурай (збожжам) за перапрапоўку збожжа ных і прыватных млынных прад

| Пры загатоўчай канвэнцыйнай цане на збожжа | | КОЛЬКІ КІЛЁГРАМ ЗБОЖЖА У ГАРАДОХ | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | На паравых, нафтавых і іншых мэханічных млынох | | | | | На вадзяных, ветра немэханічных | | |
| За цэтнер | За пуд | Просты памол | Абойны 95% | Пшан. аднагатун-кавы 80% | Крупа простая 60—65% | Крупа гатунко-вая 40—50% | Просты памол | Абойны 95% | Пшан. аднагатун-кавы 80% |
| | | Памольная плата, | | | | | | | |
| | | 67 к. | 1 р. | 1р41к. | 1 р. | 1р34к. | 61 к. | 91 к. | 1р26к. |
| | | Памольная плата, у | | | | | | | |
| 5 руб. 80 кап. | 95 кап. | 11,5 | 17,0 | 24,5 | 17,0 | 23,0 | 10,5 | 15,5 | 21,5 |
| 6 „ 10 „ | 1 руб. — „ | 11,0 | 16,5 | 23,0 | 16,5 | 22,0 | 10,0 | 15,0 | 20,5 |
| 6 „ 41 „ | 1 „ 05 „ | 10,5 | 15,5 | 22,0 | 15,5 | 21,0 | 9,5 | 14,0 | 19,5 |
| 6 „ 53 „ | 1 „ 07 „ | 10,5 | 15,5 | 21,5 | 15,5 | 20,5 | 9,5 | 14,0 | 19,5 |
| 6 „ 59 „ | 1 „ 08 „ | 10,0 | 15,0 | 21,5 | 15,0 | 20,5 | 9,0 | 14,0 | 19,0 |
| 6 „ 72 „ | 1 „ 10 „ | 10,0 | 15,0 | 21,0 | 15,0 | 20,0 | 9,0 | 13,5 | 18,5 |
| 6 „ 84 „ | 1 „ 12 „ | 10,0 | 14,5 | 20,5 | 14,5 | 19,5 | 9,0 | 13,5 | 18,5 |
| 6 „ 90 „ | 1 „ 13 „ | 10,0 | 14,5 | 20,5 | 14,5 | 19,5 | 9,0 | 13,0 | 18,5 |
| 7 „ 02 „ | 1 „ 15 „ | 9,5 | 14,0 | 20,0 | 14,0 | 19,0 | 8,5 | 13,0 | 18,0 |
| 7 „ 14 „ | 1 „ 17 „ | 9,5 | 14,0 | 19,5 | 14,0 | 19,0 | 8,5 | 12,5 | 17,5 |
| 7 „ 20 „ | 1 „ 18 „ | 9,5 | 14,0 | 19,5 | 14,0 | 18,5 | 8,5 | 12,5 | 17,5 |
| 7 „ 33 „ | 1 „ 20 „ | 9,0 | 13,5 | 19,0 | 13,5 | 18,5 | 8,5 | 12,5 | 17,0 |
| 7 „ 45 „ | 1 „ 22 „ | 9,0 | 13,5 | 19,0 | 13,5 | 18,0 | 8,0 | 12,0 | 17,0 |
| 7 „ 51 „ | 1 „ 23 „ | 9,0 | 13,5 | 19,0 | 13,5 | 18,0 | 8,0 | 12,0 | 16,5 |
| 7 „ 57 „ | 1 „ 24 „ | 9,0 | 13,0 | 18,5 | 13,0 | 17,5 | 8,0 | 12,0 | 16,5 |
| 7 „ 63 „ | 1 „ 25 „ | 9,0 | 13,0 | 18,5 | 13,0 | 17,5 | 8,0 | 12,0 | 16,5 |
| 7 „ 75 „ | 1 „ 27 „ | 8,5 | 13,0 | 18,0 | 13,0 | 17,5 | 8,0 | 11,5 | 16,5 |
| 7 „ 81 „ | 1 „ 28 „ | 8,5 | 13,0 | 18,0 | 13,0 | 17,0 | 8,0 | 11,5 | 16,0 |
| 7 „ 94 „ | 1 „ 30 „ | 8,5 | 12,5 | 17,5 | 12,5 | 17,0 | 7,5 | 11,5 | 16,0 |
| 8 „ 06 „ | 1 „ 32 „ | 8,5 | 12,5 | 17,5 | 12,5 | 16,5 | 7,5 | 11,5 | 15,5 |
| 8 „ 12 „ | 1 „ 33 „ | 8,0 | 12,5 | 17,5 | 12,5 | 16,5 | 7,5 | 11,0 | [illegible] |
| 8 „ 18 „ | 1 „ 34 „ | 8,0 | 12,5 | 17,5 | 12,5 | 16,5 | 7,5 | 11,0 | [illegible] |
| 8 „ 24 „ | 1 „ 35 „ | 8,0 | 12,0 | 17,0 | 12,0 | 16,5 | 7,5 | 11,0 | 15,0 |
| 8 „ 55 „ | 1 „ 40 „ | 8,0 | 11,5 | 16,5 | 11,5 | 15,5 | 7,0 | 10,5 | 15,0 |
| 8 „ 85 „ | 1 „ 45 „ | 7,5 | 11,5 | 16,0 | 11,5 | 15,0 | 7,0 | 10,5 | 14,0 |
| 9 „ 16 „ | 1 „ 50 „ | 7,5 | 11,0 | 15,5 | 11,0 | 14,5 | 6,5 | 10,0 | 14,0 |
| 9 „ 46 „ | 1 „ 55 „ | 7,0 | 10,5 | 15,0 | 10,5 | 14,0 | 6,5 | 9,5 | 13,5 |
| 10 „ 07 „ | 1 „ 65 „ | 6,5 | 10,0 | 14,0 | 10,0 | 13,5 | 6,0 | 9,0 | 12,5 |
| 10 . 38 „ | 1 „ 70 „ | 6,5 | 9,5 | 13,5 | 9,5 | 13,0 | 6,0 | 8,5 | 12,0 |
| 10 „ 56 „ | 1 „ 73 „ | 6,5 | 9,5 | 13,5 | 9,5 | 12,5 | 5,5 | 8,5 | 12,0 |
| 10 „ 68 „ | 1 „ 75 „ | 6,0 | 9,5 | 13,0 | 9,5 | 12,5 | 5,5 | 8,5 | 12,0 |
| 10 „ 81 „ | 1 „ 77 „ | 6,0 | 9,5 | 13,0 | 9,5 | 12,5 | 5,5 | 8,5 | 11,5 |
| 10 „ 87 „ | 1 „ 78 „ | 6,0 | 9,0 | 13,0 | 9,0 | 12,5 | 5,5 | 8,5 | 11,5 |
| 10 „ 99 „ | 1 „ 80 „ | 6,0 | 9,0 | 13,0 | 9,0 | 12,0 | 5,5 | 8,5 | 11,5 |
| 11 „ 29 „ | 1 „ 85 „ | 6,0 | 9,0 | 12,5 | 9,0 | 12,0 | 5,5 | 8,0 | 11,0 |

Інспэктар Народнага Камісары

Сакратар Народнага

*Дадатак*

**сялянскіх і іншых прыватных памольцаў на дзяржаўных, каперацыйпрыемствах і крупадзёрках.**

| БЯРЭЦЦА ЗА ПЕРАПРАЦОЎКУ 1 ЦЭНТНЕРА ЗБОЖЖА | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | У СЕЛЬСКІХ МЯСЦОВАСЬЦЯХ | | | | | | | | | |
| ных і інш. млынах | | На паравых, нафтавых і іншых мэханічных млынох | | | | | На вадзяных, ветраных і іншых немэханічных млынох | | | | |
| Крупа простая 60—65% | Крупа гатункова 40—45% | Просты памол | Абойны 95% | Пшан. аднагатунковы 80% | Крупа простая 60—65% | Крупа гатункова 40—45% | Просты памол | Абойны 95% | Пшан. аднагатунковы 80% | Крупа простая 60—65% | Крупа гатункова 40—45% |
| **якая існавала раней у грашовай форме.** | | | | | | | | | | | |
| 91 к. | 1р 21к. | 61 к. | 91 к. | 1р 26к. | 91 к. | 1р 21к. | 55 к. | 82 к. | 1р 17к. | 82 к. | 1р 10к. |
| **ноўленая ў натуральнай форме (збожжам.)** | | | | | | | | | | | |
| 15,5 | 21,0 | 10,5 | 15,5 | 21,5 | 15,5 | 21,0 | 9,5 | 14,0 | 20,0 | 14,0 | 19,0 |
| 15,0 | 20,0 | 10,0 | 15,0 | 20,5 | 15,0 | 20,0 | 9,0 | 13,5 | 19,0 | 13,5 | 18,0 |
| 14,0 | 19,0 | 9,5 | 14,0 | 19,5 | 14,0 | 19,0 | 8,5 | 13,0 | 18,0 | 13,0 | 17,0 |
| 14,0 | 18,5 | 9,5 | 14,0 | 19,5 | 14,0 | 18,5 | 8,5 | 12,5 | 18,0 | 12,5 | 17,0 |
| 14,0 | 18,5 | 9,0 | 14,0 | 19,0 | 14,0 | 18,5 | 8,5 | 12,5 | 17,5 | 12,5 | 16,5 |
| 13,5 | 18,0 | 9,0 | 13,5 | 18,5 | 13,5 | 18,0 | 8,0 | 12,0 | 17,5 | 12,0 | 16,5 |
| 13,5 | 17,5 | 9,0 | 13,5 | 18,5 | 13,5 | 17,5 | 8,0 | 12,0 | 17,0 | 12,0 | 16,0 |
| 13,0 | 17,5 | 9,0 | 13,0 | 18,5 | 13,0 | 17,5 | 8,0 | 12,0 | 17,0 | 12,0 | 16,0 |
| 13,0 | 17,0 | 8,5 | 13,0 | 18,0 | 13,0 | 17,0 | 8,0 | 11,5 | 16,5 | 11,5 | 15,5 |
| 12,5 | 17,0 | 8,5 | 12,5 | 17,5 | 12,5 | 17,0 | 7,5 | 11,5 | 16,5 | 11,5 | 15,5 |
| 12,5 | 17,0 | 8,5 | 12,5 | 17,5 | 12,5 | 17,0 | 7,5 | 11,5 | 16,0 | 11,5 | 15,5 |
| 12,5 | 16,5 | 8,5 | 12,5 | 17,0 | 12,5 | 16,5 | 7,5 | 11,0 | 16,0 | 11,0 | 15,0 |
| 12,0 | 16,0 | 8,0 | 12,0 | 17,0 | 12,0 | 16,0 | 7,5 | 11,0 | 15,5 | 11,0 | 15,0 |
| 12,0 | 16,0 | 8,0 | 12,0 | 16,5 | 12,0 | 16,0 | 7,5 | 11,0 | 15,5 | 11,0 | 14,5 |
| 12;0 | 16,0 | 8,0 | 12,0 | 16,5 | 12,0 | 16,0 | 7,5 | 11,0 | 15,5 | 11,0 | 14,5 |
| 12,0 | 16,0 | 8,0 | 12,0 | 16,5 | 12,0 | 16,0 | 7,0 | 10,5 | 15,5 | 10,5 | 14,5 |
| 11,5 | 15,5 | 8,0 | 11,5 | 16,5 | 11,5 | 15,5 | 7,0 | 10,5 | 15,0 | 10,5 | 14,0 |
| 11,5 | 15,5 | 8,0 | 11,5 | 16,0 | 11,5 | 15,5 | 7,0 | 10,5 | 15,0 | 10,5 | 14,0 |
| 11,5 | 15,0 | 7,5 | 11,5 | 16,0 | 11,5 | 15,0 | 7,0 | 10,5 | 14,5 | 10,5 | 14,0 |
| 11,5 | 15,0 | 7,5 | 11,5 | 15,5 | 11,5 | 15,0 | 7,0 | 10,0 | 14,5 | 10,0 | 13,5 |
| 11,0 | 15,0 | 7,5 | 11,0 | 15,5 | 11,0 | 15,0 | 7,0 | 10,0 | 14,5 | 10,0 | 13,5 |
| 11,0 | 15,0 | 7,5 | 11,0 | 15,5 | 11,0 | 15,0 | 6,5 | 10,0 | 14,5 | 10,0 | 13,5 |
| 11,0 | 14,5 | 7,5 | 11,0 | 15,0 | 11,0 | 14,5 | 6,5 | 10,0 | 14,0 | 10,0 | 13,5 |
| 10,5 | 14,0 | 7,0 | 10,5 | 15,0 | 10,5 | 14,0 | 6,5 | 9,0 | 13,5 | 9,5 | 13,0 |
| 10,5 | 13,5 | 7,0 | 10,5 | 14,0 | 10,5 | 13,5 | 6,0 | 9,5 | 13,5 | 9,5 | 12,5 |
| 10,0 | 13,0 | 6,5 | 10,0 | 14,0 | 10,0 | 13,0 | 6,0 | 9,0 | 13,5 | 9,0 | 12,0 |
| 9,5 | 12,5 | 6,5 | 9,5 | 13,5 | 9,5 | 12,5 | 6,0 | 8,5 | 12,5 | 8,5 | 11,5 |
| 9,0 | 12,0 | 6,0 | 9,0 | 12,5 | 9,0 | 12,0 | 5,5 | 8,0 | 11,5 | 8,0 | 11,0 |
| 8,5 | 11,5 | 6,0 | 8,5 | 12,0 | 8,5 | 11,5 | 5,5 | 8,0 | 11,5 | 8,0 | 10,5 |
| 8,5 | 11,5 | 5,5 | 8,5 | 12,0 | 8,5 | 11,5 | 5,5 | 7,5 | 11,0 | 7,5 | 10,5 |
| 8,5 | 11,5 | 5,5 | 8,5 | 12,0 | 8,5 | 11,5 | 5,0 | 7,5 | 11,0 | 7,5 | 10,5 |
| 8,5 | 11,0 | 5,5 | 8,5 | 11,5 | 8,5 | 11,0 | 5,0 | 7,5 | 11,0 | 7,5 | 10,0 |
| 8,5 | 11,0 | 5,5 | 8,5 | 11,5 | 8,5 | 11,0 | 5,0 | 7,5 | 11,0 | 7,5 | 10,0 |
| 8,5 | 11,0 | 5,5 | 8,5 | 11,5 | 8,5 | 11,0 | 5,0 | 7,5 | 10,5 | 7,5 | 10,0 |
| 8,0 | 11,0 | 5,5 | 8,0 | 11,0 | 8,0 | 11,0 | 5,0 | 7,5 | 10,5 | 7,5 | 10,0 |

Гандлю БССР **Л. Галкін.**

Камісарыяту Гандлю БССР **К. Верамейчык.**

Адказны Рэдактар: **І. Фрыдман.**

## АБВЕСТКА

# ХУТКА ВЫЙДЗЕ З ДРУКУ

# КРЫМІНАЛЬНЫ КОДЭКС БССР

**у рэдакцыі 1928 году**

з альфабэтна-прадметным паказчыкам і з параўнальнаю таблiцаю артыкулаў Кодэксу ранейшага выданьня і гэтага

**Цана Кодэксу 1 руб.**

**ЗАКАЗЫ І ГРОШЫ НАКІРОЎВАЦЬ**

Інфармацыйнаму Аддзелу Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнай Нарады БССР, г. Менск, Пляц Волі, 17.

